№ 14 (156). Rok XI. „SZLACH MOŁADZI" Wilno, 5.VIII.1939.

# ШЛЯХ МОЛАДЗІ
# ŚLACH MOŁADZI

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

№ 14 (156). Вільня, 5 Жніўня 1939 г. Год XI

## БЕЛАРУСКІ АДРАДЖЭНСКІ РУХ МУСІЦЬ АХАПІЦЬ УСЕ СЛАІ НАРОДУ!

У беларускай прэсе, у навуковай і мастацкай літаратуры вельмі моцна падчырківаецца, што Беларусы гэта народ сялянскі. І сапраўды,так яно ёсьць. Сялянства прадстаўляе абсалютную большасьць насельніцтва нашага краю. З гэтае прычыны ўся ўвага нашых арганізацыяў, дзеячоў і часапісаў, асабліва апошнімі гадамі, скіравана на вёску, а аб работніках, мяшчанах ніхто й не ўспамінае, так як быццам яны нам зусім чужыя. Некаторыя нават ня стыдаюцца гаварыць, што месты зьяўляюцца асяродкамі зусім спалянізаванымі. Гэта, ясна, яшчэ больш завастрае апэтыты польскіх абшарнікаў (газ. „Słowo"), каторыя шукаючы спосабаў палянізацыі Беларусаў прапануюць закладаць у нашым краі фабрыкі й накіроўваць да іх беларускіх сялян, уважаючы, што там іх, адарваўшы ад родных гоняў, пры бяздушных фабрычных станкох лягчэй будзе спалянізаваць. Мо' і лягчэй вынарадаўляецца работнік як селянін, але гэта ня значыць,што няма патрэбы цікавіцца работніцтвам, а наадварот—гэта ёсьць наказ, каб зьвярнуць на гэтую праблему належную ўвагу. Тым больш, што работніцкая кляса зьяўляецца перадавым элемэнтам ува ўсіх народных, грамадзкіх і палітычных рухах. Работнікі заўсёды лепш сарганізаваныя, лепш паінфармаваныя аб падзеях, бо яны жывуць бліжэй адзін ад другога й кожны дзень цэлымі сотнямі й тысячамі спатыкаюцца ў фабрыках, ды на выпадак патрэбы патрапяць скора й рашуча дзеяць і рабіць уплывы. Праўда, сялянскі страйк у Польшчы ў 1937 г. паказаў, што сялянства таксама можа сарганізавацца й паказаць сваю сілу. Найлепш-жа было-б, каб сяляне й работнікі знайшлі супольны шлях, супольную мэту й разам ішлі да яе. Такое сынтэзы, такога спалучэньня, такога народнага аб'яднаньня мусім мы, Беларусы, шукаць у сваім нацыянальным адраджэнскім руху.

З местамі, з работніцкай клясай у нашым краі ў сэнсе нацыянальным ня ёсьць так кепска, як часта здаецца. Трэба памятаваць, што сярод работнікаў ужо ў 1905 годзе працавала Беларуская Сацыялістычная Грамада. Да віленскіх работнікаў няраз прамаўляла на мітынгах ведамая беларуская паэтка рэвалюцыянэрка Цётка й шмат іншых бел. дзеячоў. Пасьля вайны вялікія ўплывы сярод работнікаў нашага краю мела Бел. Сялянска-Работніцкая Грамада, ТБШ й Бел. Інстытут Г. і Культ.

У такой Вільні, якая найбольш спалянізаваная й афіцыяльная статыстыка якой Беларусаў паказвае надта малы працэнт, беларускі язык чуем на кожным кроку. У работніцкіх першамайскіх паходах наймацней грымяць беларускія рэвалюцыйныя песьні. У Вільні кажуць, што найбольшыя ўплывы маюць польскія эндэкі, а аднак калі Беларускі Інстытут Гаспадаркі й Культуры ладзіў у 1935 і 1936 г. папулярныя лекцыі, дык яны далёка больш сьцягвалі публікі, чымся эндэцкія сабраньні, і дзеля гэтага хапала даць аб лекцыі кароткае паведамленьне ў аднэй толькі газэце.

Аб Горадні анагдай гаварыў адзін беларускі інтэлігент, каторы там стала жыве, што калі-б уГорадні Беларусы былі сарганізаваныя — маглі-б здабыць у самаўрадавых выбарах найменш дзесяць мандатаў.

Беларускасьць Ліды характарызаў мне нядаўна адзін літоўскі інтэлігент, каторы жыў там нейкі час і гэтак казаў: — У Лідзе жыхары хрысьціяне, пераважна работнікі, з заработкам да 200 зл. у месяц, — усе Беларусы. Язык беларускі пануе ўсюды, за выняткам дзяржаўных установаў.—Ліда,трэба ведаць, зьяўляецца вялікім фабрычным работніцкім асяродкам і заработкі работнікаў там невялікія, як і ўсюды ў нашым краю.

У Беластоку беларускія работнікі, ня гледзячы на тое, што ня маюць свае арганізацыі, сёлета ў часе выбараў правялі ў меставую раду двух сваіх радных. Там між іншым калісь вельмі добра разьвівалася праца Т-ва Бел. Школы.

У Баранавічах, Слоніме, Наваградку, а так-жа й іншых местах нават афіцыяльная статыстыка падае блізу ў дзесяць разоў большы працэнт Беларусаў, як у Вільні.

Гэтых некалькі штрыхоў гавораць, што можна й трэба больш цікавіцца местам, працаваць там і зварочваць увагу на работніцтва. Беларускі адраджэнскі рух мае цэлыя кадры дзеячоў на вёсцы й мусіць іх мець у гарадох сярод работнікаў.Дзеячы гэтыя мусяць быць з сабою, а так-жа з беларускім культурным цэнтрам у Вільні ў сталым кантакце... Тымчасам кантакту з бел. цэнтрам, з бел. прэсай, работніка Беларуса ня відаць.

Трэба было-б старацца, каб паўставалі беларускія работніцкія арганізацыі, але ў цяперашніх варунках гэта бадай немагчыма. Дык пакуль-што кожны Беларус, кожны беларускі работнік павінен старацца, каб ува ўсіх прафэсыянальных саюзах, ува ўсіх работніцкіх бібліяя-

тэках былі беларускія часапісы, кніжкі, каб на культурных імпрэзах дэклямаваліся беларускія творы, разлягаліся беларускія песьні, каб беларускі работнік не забываўся свае мовы й сваіх дзяцей вучыў беларускае граматы. Пры тым усіх нашых падпішчыкаў і чытачоў, якія маюць знаёмых Беларусаў у местах, просім прыслаць нам іхнія адрысы, каб маглі мы выслаць ім пробныя нумары нашага часапісу. Гэта на пачатак, а далей— трэба думаць аб шырэйшай працы. Беларускі адраджэнскі рух мусіць ахапіць усе слаі нашага народу. Беларускі інтэлігент, побач з работнікам, селянінам і мешчанінам павіненісьці супольным шляхам да адбудовы, да поўнага адраджэньня нашага краю, да лепшага заўтра!..

Я. Н.

# Irlandcy ŭ baraćbie za poŭnuju niezaležnaść

Anhlija, jakaja ihraje ŭ mižnarodnaj palitycy pieršuju skrypku, maje mnoha chłopataŭ. Pierad usim mocna jaje tryvožyć uzrost siły Niamieččyny j vialikaja jaje aktyŭnaść, škiravanaja suproć anhlijska-francuskich upłyvaŭ i kalonijaŭ. Dziela taho anhlijskija palityki, jak dahetul nikoli moža, starajucca i baroniać svajho stanovišča na mižnarodnaj arenie. Tymčasam u krai, u Londynie, Manchestery, Liverpoole i inšych haradoch na čyhunačnych stancyjach, pošcie, u fabrykach razlahajucca ŭzryvy bombaŭ, paŭstajuć pažary j roznyja katastrofy. Zmabilizavana užo 16 tysiač palicyjantaŭ, a anhielski parlament vydaŭ specyjalny vostry zakon dziela baraćby z usimi henymi tryvožnymi prajavami, jakija nie dajuć spakoju Anhlijcam. Ničoha adnak nie pamahaje. U toj dzień navat, jak parlament pryjmaŭ zakon ab baraćbie z teroram, razyjšlisia čutki, što buduć uzryvy bombaŭ u samym parlamencie. Na hety raz adnak parlament ucaleŭ, ale pahroza dalej visić.

Skul-ža ŭsio heta biarecca?

Vinoŭnikaŭ ciažka złavić, choć znaki jany astaŭlajuć. Jany dajuć znaki, što jość heta dziejnaść nielehalnaje irlandzkaje terorystyčnaje arhanizacyi I.R.A.— arhanizacyi tych Irlandcaŭ, katorych daŭno uziała pad svaju „apieku" Anhlija.

Irlandyja, ci jak jaje nazyvajuć sami Irlandcy Eire — Ajryi, maje 3 miljony žycharoŭ i raspałožana na nievialikim vostravie Atlantyckaha akijanu, vobak vostrava, na jakim znachodzicca Anhlija.

Ciažka žyłosia Ajryšom (Irlandcam) pad uładaj Anhlii j baraćbu z joj pačali jany ŭžo ŭ 1315 h. Ad henaha času śviedamaść kryŭdy j achvota vyrvacca z anhlijskaje niavoli, dy žyć svaim niezaležnym žyćciom u hetym narodzie uściaž uzmahajecca Arhanizujucca bunty, paŭstańni, jakija nia raz kančajucca dla Ajryi sumna, bo Anhlija raspraŭlałasia z hetym krajem žorstka j kryvava. Tak, naprykład, u 1649-1652 h. 500,000 Ajryšoŭ žhinuła ŭ baraćbie, a 100,000 było vyhnana z rodnaha kraju.

Aprača ŭcisku palityčnaha, uciskała Anhlija Ajryju tak-ža j eka-

## Жніво

*Ідзе жніво, калосікі худыя*
*ў зямлю убітыя і градам і дажджом.*
*Як цяжка іх зьбіраць, — сагнута сьпіна ные*
*і льлецца пот усьцяж няўпынным ручаём.*
*А сонца зьверху пале, як агнём, заўзята*
*і вецер дзесь ў бары заснуў і ні сапе.*
*Ды толькі мятлікі надзеяю крылатай*
*зьмягчаюць працы боль і радуюць цябе!*
*Азьвецесь жнейкі ўсе вы—песьняй весялухай,*
*хай рэхам адаб'е яе вяковы бор!*
*Няхай яна ўзьляціць працоўнай раці духам,*
*і займе ўвесь хутчэй жыцьцёвы свой прастор!*

28.VII.1939.

*Н. ЖАЛЬБА*

# Сучаснасьць і Беларусы ў будучыні

Здавалася, што працэс разроду няўхільна прывядзе чалавецтва да катастрофы. Гэта можа й навяло на думку вучонага Мальтуса, каторы даказваў, што людзей прыбывае больш, чымся прырост прадукцыйнасьці чалавечае працы, і што ў канцы канцоў мы станем перад праблемай: — няма чаго есьці. Тады й пачнецца выміраньне чалавечага роду, барацьба за кусок хлеба й вынішчэньне. Да некаторага часу яно сапраўды так выглядала. Асабліва ў 19 стагодзьдзі, калі дзякуючы здабычам мэдыцыны й тэхнікі людзі радзей хварэлі, менш было эпідэміяў, лепшая ежа й больш гігіенічныя умовы жыцьця і калі прырост насельніцтва быў вельмі вялікі. Працэс гэты аднак пачаўся зьмяняцца. Натуральны прырост у шмат якіх краёх заходняй Эўропы, а нават і ў Польшчы, пачаў зьмяншацца.

Асабліва ярка выступаюць знакі ліквідацыі прыросту ў Францыі, дзе матар'яльная культура, г. зв. цывілізацыя, зрабіла вялікія поступы. У сувязі з тым пайшла дэмаралізацыя, брак ахвоты да працы й цярпеньне. Таму вось у Францыі ў апошнія гады бачым працэс г. зв. дэпопуляцыі— ці йнакш кажучы — выміраньня. Калі-б Францыя ня пусьціла да сябе замежнай эміграцыі — насельніцтва яе зьмяншалася-б штогоду на пару сот тысяч асоб. І так за 1938 год самых Французаў убыло — 200.000 асоб. Ратуюць трохі сытуацыю эмігранты ўсіх амаль эўрапэйскіх краін, асабліва з сярэдняй і паўднёвай Эўропы, якія маюць натуральны прырост шмат больш ад Французаў. Затрымаць працэс выміраньня няведама ці ўдасца і таму можна зразумець клопат думаючых Французаў над сваім народам і яго будучыняй. Але ў Францыі выступаюць яшчэ іншыя працэсы, якія сьведчаць аб заміраньні здаровага інстынкту гэтай, так слаўнай нацыі. Шмат ваколіц Францыі мае пустуючыя вёскі. Гаспадары іх кінулі вёску, зямлю, забілі хаты дошкамі, а самі паехалі ў гарады, дзе лягчэй і прыямней пражыць, але й лягчэй здэмаралізавацца.

Падобныя праявы, толькі ў меншай ступені, выступаюць у Нямеччыне. І там прырост насельніцтва зьмяншаўся, даходзячы да 3-х на тысячу. Цяпер дзякуючы стараньням Гітлера падняўся да 7. Аднак штучны тормаз паданьня прыросту й пасьля некалькіх гадоў можа ня дзеяць. Побач з гэтым, у Нямеччыне, гэтак як і ў Францыі, людзі ўцякаюць з вёсак. Паміма пачэснага месца, якое займаюць у гітлераўскай сыстэме сяляне, кідаюць яны вёску і ўцякаюць у гарады. На вёсцы адчуваецца

namična. Jana pradusim zabrała ŭ svaje ruki ziamlu. Dajšło da taho, što badaj usie Ajryšy byli biezziamielnyja, a ŭsia ziamla była ŭ rukach nievialikaje hrupki anhlijskich bahačoŭ, u katorych Ajryšy pracavali, jak parabki, za mizernuju płatu, jakoje nie chapała navat na pražyćcio.

Prašledavała Anhlija Ajryšoŭ i ŭ žyćci relihijnym. Anhlija, jak viedama, vyrakłasia katalickaje viery, a pryniała pratestanctva j žorstka zmušała da hetaha Ajryšoŭ. Adnak Ajryšy vytryvali pry viery svaich baćkoŭ, pry katalictvie.

Nienaviść Ajryšoŭ da Anhlii što-raz bolš pavialičałasia j jany ŭ XVIII st. uznoŭ paŭstali z aružžam u rukach procіŭ svaich kryŭdzicielaŭ. Anhlija prymušana była krychu ŭstupić, — dała jana Ajryšom prava miec u anhlijskim parlamencie svaich pradstaŭnikoŭ. Prava heta adnak praktyčnaha značeńnia badaj nia mieła, bo dalej išoŭ žorstki prašled. Ale Ajryšy nie paddavalisia. U pałavinie XIX st. naličałasia ich 8 miljonaŭ, z katorych až kala 5 miljonaŭ ad 1841 da 1690 h, dziela niastačy ziamli j dziela ahulnaha prašledu, vyemihravała ŭ Ameryku. Heta adnak vyjšła Ajryi na dabro, bo emihranty sarhanizavalisia j pamahali maralna j hrašmi svaim bratom, što viali baraćbu ŭ krai za svajo vyzvaleńnie.

U 1916 i ŭ 1920-21 h. Ajryšy uznoŭ arhanizujuć paŭstańni. Anhlija hetyja paŭstańni zdušyła, ale ŭžo pajšła na takuju vialikuju ŭstupku, što pryznała Ajryju niezaležnym haspadarstvam, jednaść jakoj z Anhlijaj padtrymlivałasia tolki asobaj karala, katory choć nia mieŭ nijakaj ułady ŭ Ajryi, ale farmalna ličyŭsia karalom tak-ža j Ajryi. Ajryšy nia byli zadavoleny j z hetaha, a ichni pravadyr de Valera, katoraha Anhlijcy dva razy asudžvali na śmierć, jak kiraŭnik ajryskaha haspadarstva, u jaho stalicy Dublinie, 30.IV.1937h. abjaviŭ Ajryju zusim niezaležnym haspadarstvam. Usioż-taki ŭ Ajryi astałosia mnoha anhlijskaha vojska, katoraje staić i ciapier. Pry tym častka ajryskaje ziamli znachodzicca j farmalna j faktyčna pad uładaj Anhlii. Voś-ža I.R.A.— irlandzkaja terorystyčnaja arhanizacyja, da jakoje naležać ludzi starejšyja, mužčyny i žančyny, a pierad usim moładź,—svaimi bombami, teroram, ulotkami damahajecca, kab Anhlija akančalna zabrała z Ajryi svajo vojska, svaich uradaŭcaŭ. Premjer de Valera kaža, što narod ajryski faktyčna nia jość varoža nakiravany suproć Anhlii, adnak, pakul Anhlija nia budzie davać mahčymaściaŭ naležnaha raźvićcia Ajryi, ciažka pieraškodzić henaj častcy Ajryšaŭ, katoraja tak vostra vystupaje suproć Anhlii.

Złoŭlenyja terorysty admaŭlajucca ad usiakich adkazaŭ, adzinym ichnim adkazam jość klič: „Niezaležnaja Ajryja!"

*j. n.*

## Kali-ž budzie adčynieny biełaruski licej?

Reforma školnictva ŭ Rečypaspalitaj mocna skryŭdziła Biełarusaŭ, bo z adzinaje vaśmi-klasovaje Biełaruskaje Himnazii ŭ Vilni astalisia tolki 4 klasy nižejšyja, a starejšyja źlikvidavany i na ich miesca licej nia stvorany. Dziela taho baćki biełaruskaje himnazijalnaje moładzi j biełaruskaje hramadzianstva nia raz źviartalisia da školnych uładaŭ z prośbaj adčynić u Vilni biełaruski ahulna-aśvietny licej, jaki jość nieabchodny dla dabra aśviety ŭ našym Krai. Ułady nia raz užo abiacali, što prośby buduć razhladać, ale dasiul ab licei ničoha nia čuvać, choć pačatak školnaha hodu ŭžo nie za harami. Dyk prypaminajem, što biełaruskaja moładź, biełaruskaje hramadzianstva čakaje adkryćcia biełaruskaha liceju, tym bolš, što Biełarusam u Rečypaspalitaj naležycca nie adna biełaruskaja himnazija j licej. Biełarusy čakajuć takža adčynieńnia biełaruskich pačatkavych škołaŭ, na što padana dziesiatki tysiač deklaracyjaŭ. Školnym uładam chiba-ž dobra viedama, što aśvieta tady budzie naležna raźvivacca, kali navuka budzie adbyvacca ŭ zrazumiełaj rodnaj biełaruskaj movie moładzi našaha Kraju. Para, sapraŭdy, najvyšejšaja, kab damahańni Biełarusaŭ rodnaje biełaruskaje škoły ułady pačali spaŭniać!

---

аграмадны недахоп рабочых рук. Вядзецца прапаганда сярод гітлероўскай моладзі, каб асядала ў вёсках, аргумэнтуючы гэта патрэбай і рацыяй Нямеччыны й ідэолёгіяй нацыянал-сацыялістычнай партыі. Ясная рэч, што калі няма моцнага сялянскага інстынкту і любові зямлі, ніякія „ідэолёгічныя" намовы нічога не памогуць. Могуць яны часова развязаць праблему рабочых сіл на вёсцы, але гэтым і кончыцца. На даўжэйшую мэту ня маюць яны глыбейшага падкладу.

Як бачым, буйнейшыя, а нат часткова й меншыя дзяржавы заходняй Эўропы — стаяць перад паважнай праблемай вылюдненьня. Працэс гэты адбываецца самадзейна й калі будзе трываць далей бяз войнаў і нападаў,—прыйдзе да замены на данай тэрыторыі аднаго народу другім. Той народ, які мае большы прырост насельніцтва, займе тэрыторыю выміраючага народу.

На прыкладзе Нямеччыны, Францыі(і Англіі) можна прасьледзіць яшчэ адно цікавае зьявішча. Зьявішчам гэтым будзе нарастаньне захопніцкіх, імпэрыялістычных імкненьняў. Народы гэтыя ня хочучы працаваць на ральлі захоплівалі земляробскія краіны другіх народаў (Англія—Індыю, Аўстралію, Канаду; Францыя—Індокітай, афрыканскія краіны; Італія—Абісынію, Лібію і г.д.). Нямеччына таксама мела перад вайной чужыя землі й калёніі, акія пасьля вайны адыйшлі ці то да нова-паўстаўшых дзяржаў ці перайшлі пад уладаньне Англіі й Францыі. А цяпер бачым вялізарны напор Немцаў на ўсход, гдзе жывуць народы прывязаныя да зямлі. Немцы маюць тут адразу некалькі здабычаў: 1) Краіны гэтыя маюць мала разьвіты собскі промысел. Немцы знойдуць тут рынак збыту для сваіх тавараў. 2) Насельніцтва гэтых краін пераважна земляробскае, ды да таго дробнае. Таму яно апрача набываньня нямецкіх тавараў, мае даць танны рэзэрвуар рабочых рук, як для нямецкай прамысловасьці, так і для нямецкага земляробства. Немцы будуць тады, так як цяпер Французы, Ангельцы, Бэльгійцы, Галяндцы, толькі кіраваць — працаваць будуць на іх іншыя народы, народы, паводле думкі Немцаў, ніжэйшага паходжаньня. Думка гэта даўно сядзела ў нямецкіх галовах і толькі цяпер дзякуючы Гітлеру й яго руху дасьпела да свайго выкананьня. І дзеля таго народ нямецкі стаіць за Гітлера, бо ён бачыць, што Гітлер, калі ўдасца, прывядзе яго (народ) да панаваньня над другімі, па думцы нямецкай, ніжэйшымі народамі.

У сутнасьці справа кожнага панаваньня аднаго народу над другім мае ў сабе падобныя паглкды. Часта й мы на сваей скуры адчуваем гэта. І нат далікат-

# † Pamior Mitrapalit Advardy Ropp — pryjaciel Biełaruskaha narodu

U Paznani 25.VII. sioleta na 88 hodz e žyćcia pamior Mahiloŭski Arcybiskup Mitrapalit Advardy Ropp. Byŭ heta vialiki čałaviek. Žyvučy siarod Biełarusaŭ cikaviŭsia jon biełaruskim adradženskim rucham, spryjaŭ jamu i maje pierad Biełaruskim Narodam zasłuhi. Ks. Adam Stankievič, katory niejki čas pracavaŭ z Arcyb. E. Roppam, hetak miž inšym piša ab im u Nr. 23 „Chr. Dumki" z dn. 1.VII.39:

— Mitrapalit Advardy Ropp z pachodžańnia byŭ Niemiec, z prakanańnia Palak. Radziŭsia ŭ Liksnie (Łatvija) ŭ 1851 h. Pa skančeńni siaredniaj škoły skončyŭ u Pieciarburzie prava i pastupiŭ u Senat na słužbu. Chutka adnak hetuju karjeru pakinuŭ i pastupiŭ u Duchoŭnuju Seminaryju ŭ Koŭnie. Staŭšysia ksiandzom, skončyŭ jašče vyšejšyja navuki teolohičnyja ŭ Insbruku i Fryburhu.

Paśla hetaha pracavaŭ, jak probašč, na parafii: u Tyrolu (Aŭstryja) i ŭ Libavie (Łatvija), i jak kanonik u Koŭnie. Navučyŭsia pałatysku i palitoŭsku. U 1902 h. staŭsia biskupam u Saratavie (ciapier Savieckaja Ukraina).

U 1903 h. byŭ pieraviedzieny na biskupa ŭ Vilniu, dzie pieršy raz spatkaŭsia z Biełarusami. Załažyŭ jon tut palityčnuju katalickuju arhanizacyju: „Stronnictvo Konstytucyjno-Katolickie," a ŭ 1917 h. Chryścijanskuju Demakracyju, u jakich braŭ pad uvahu ŭ kulturnym žyćci i biełaruski jazyk.

Papiež Benedykt XV u 1917 h. naznačyŭ jaho arcybiskupam mitrapalitam Mahiloŭskim. Pry jaho in-



**Śv. p. Arcybiskup E. Ropp**

tronizacyi ŭ Pieciarburzie bulla była pračytana j pabiełarusku.

U 1907 h. biskupa Roppa rasiejski ŭrad sasłaŭ na vyhnańnie, jakoje tryvała 10 hadoŭ, až da vybuchu rasiejskaj lutavaj revalucyi ŭ 1917 h.

U tym-ža 1917 h., vizytujučy parafii Vilenskaj Dyecezii, jakija nia byli pad niamieckaj akupacyjaj, usiudy z jaho dazvołu byli havorany biełaruskija kazańni. Pieršaje takoje kazańnie z bahasłavienstva Mitrapalita Roppa ŭ Dziśnie ŭ 1917 h. u lipni miesiacy skazaŭ Ks. Ad. Stankievič.

Biełaruskuju movu ŭ kaściol jon uvodziŭ aficyjalna j patrebu ŭžyvańnia biełaruskaha jazyka ŭ kaściele padčorkvaŭ u svaim pastyr. liście. Prabavaŭ navat na staraść vučycca pabiełarusku. Da vitajučych jaho Biełarusaŭ achvotna pramaŭlaŭ pabiełarusku choć niekalki słoŭ.

U 1919 h. mitrapalit Ropp byŭ aryštavany balšavikami j asudžany na vastroh. Byŭ adnak vymieniany j vypuščany ŭ Polšč. Asieŭ u Varšavie, ale nie zajmaŭ nijakaha stanovišča.

U 1931 h., nia majučy ŭžo nadziei na pavarot na svaju stalicu, vydaŭ raźvitalny list da svajho duchavienstva. U hetym liście jašče raz padčorkvaje, što duchavienstva pavinna adnolkava šanavać usie narody j pryznavać ich pravy.

Śv. p. arcybiskup Mitrapalit Ropp byŭ sapraŭdy pryjacielem Biełaruskaha narodu. Viečny-ž supakoj dušy hetaha Vialikaha Chryścijanina-Apostała j čałavieka! Čeść i słava Jaho śvietłaj pamiaci!—

---

на часамі тлумачаць нам паны абшарнікі, што які гэта беларускі народ, у яго таго няма, таго няма, восьу нас, —другая справа:—і культура і цывілізацыя і тое вышэй і тое вышэй. Вы, Беларусы кажуць яны, ня маеце права самі жыць.Пан у палацы тлумачыць часта свайму парабку: — глядзі, колькі ў мяне багацтва, культуры, якія вучоны й мудры, куды ты ад мяне пойдзеш, служы мне, тут табе будзе найлепш. Парабак-раб, у якога яшчэ ня выгасьлі нявольніцкія інстынкты й навыкі, згодзіцца, а парабак, у якога ўжо прабудзіўся чалавек, пачуцьцё людзкай годнасьці, з пагардай адкіне падобнае кушэньне, і будзе шукаць выхаду да лепшага жыцьця.

Мы стаім на грунце роўнасьці людзей ня толькі перад чалавечым правам, але й перад правам натуры, якое ўсіх роўнымі творыць. Чужога ані ў гісторыі,ані цяпер мы не займалі. Маем глыбокую, напрыродную любоў да зямлі-маці. Колькі сыноў нашай зямлі выяжджала ў Амэрыку, дзе большасьць з іх жыве лепш, чымся на бацькаўшчыне. Але ім гэтага мала. Зямля маці кліча іх да сябе. Наш чалавек, сабраўшы трохі грошаў, варочаецца ў родную вёску, купляе кусок поля й дажывае канца дзён на бацькаўшчыне.

Разьвязка труднасьці ў міжнародным абсягу не ляжыць на нашу думку ў захопніцтве. Народ, які ня хоча працаваць, а толькі панаваць, каб падтрымаць сваё далейшае існаваньне, з прыроднага пункту гледжаньня ня мае права жыць. Таму такія народы выміраюць. Іх сама натура прысудзіла на сьмерць, ад якой іх бязумоўна не ўратуе захоп чужых тэрыторыяў. На іх мейсца прыйдуць народы, якія хочуць ня толькі мець выгоду ў жыцьці, але й працаваць. Да такіх народаў належым, у поўным значэньні гэтага слова, мы— Беларусы. Ані ахвоты да збытку, ані пагарды да земляробскай працы мы ня маем. Прырост натуральны высокі - вышэйшы, чымся ў Немцаў, Французаў, Палякоў, Украінцаў, Жыдоў і іншых народаў. І гэта мы падтрымліваем высокі працэнт натуральнага прыросту ў Польшчы, у той час, як „культурная" Пазнаншчына мае яго зьбліжаным да суседняй Нямеччыны. Разумеючы выльчаныя тут працэсы й ацэніваючы іх аграмаднае для нас значэньне, мусім дакладаць стараньняў, каб у меру магчымасьці і сіл народ наш хутчэй дайшоў да прызначанай яму самой прыродай будучыні. Будучыня належыць народам з вялікім натуральным прыростам.

П. З.

# Лінія Мажіно і Лінія Зыгфрыда—найвялікшыя крэпасьці

У палітыцы стварылася ўжо такое палажэньне, што людзі з дня-на-дзень чакаюць, калі наступіць узрыў, калі загавораць ужо не дыплёматы й генэралы, а гарматы. Вайна, як кажуць, вісіць на валаску, а падгатоўка да яе пачалася некалькі год таму. Фактычна зараз пасьля Сусьветнае Вайны Немцы думалі аб тым, як гэта адамсьціцца за ўпакарэньне іх у Вэрсалі, дзе змушаны былі падпісаць мір пад дыхтоўку Францыі й Англіі. Францыя, бачучы вялікую нямецкую варожасьць, пастанавіла так адгарадзіцца ад Нямеччыны, каб Немцы ніколі не маглі ўвайсьці на францускую зямлю. І вось на прапазыку міністра вайны Мажіно, які ўжо памёр, уздоўж нямецкае граніцы Французы пабудавалі вялізарную крэпасьць, называючы яе імям таго міністра—Лініяй Мажіно.



Проціўтанкавыя запоры лініі Мажіно

Паводле знатакоў, Лінія Мажіно вытрымае кажны ваенны напор. Усе крэпасьці гэтае лініі знаходзяцца ў зямлі. Навонкі бадай нічога ня відаць. Растуць дрэвы, збожа, стаяць хаты, а пры іх працуюць нармальна, як заўсёды, сяляне земляробы. Пад імі-ж цягнуцца жалеза-бэтонныя бліндажы, калідоры, ідзе вузкая калейка, па якой ваганеткі развозяць жаўнерам амуніцыю й прадукты. Увесь рух там змэханізаваны адпаведнымі віндамі, ўсё асьветлена электрыкай, злучана тэлефонам. Жаўнеры маюць пад зямлёй ня толькі выгодныя, цёплыя памешканьні, з цёплай і зімнай вадой, кухні, але нават і шпіталі. Для людзей цывільных так-жа пабудаваныя спэцыяльныя акопы сховы ад газавых і самалётных атакаў. Усюды таксама зроблена ў зямлі вялікія склады на прадукты й амуніцыю. Шырыня Лініі Мажіно 30 ангійскіх міль. Самых гарматаў устаноўленых і адпаведна прыкрытых ёсьць 14 тысяч. Абслугоўваюць у часе супакою гэтую лінію 100 тысяч чалавек. У часе трывогі й на адпаведны сыгнал некаторыя гарматы й кулямёты страляюць аўтаматычна. Для нагляданьня й надаваньня адпаведнага кірунку стральбы з пад зямлі выходзяць адпаведныя трубы, праз якія відаць, што робіцца на зямлі. Ад атакаў танкаў бароняць на граніцы Лінію Мажіно спэцыяльна ўстаўленыя жалезныя і жалезна-бэтонныя стаўпы. Лінія, хоць творыць адну цэласьць, аднак падзелена на часткі і калі-б да якое-небудзь часткі ўварваўся непрыяцель, дык яна можа быць узарвана. Французы кажуць, што Лініі Мажіно ніхто непяройдзе і ніхто ня возьме.



Проціўтанкавыя запоры лініі Зыгфрыда

У адказ на францускія пагранічныя крэпасьці, Немцы, па абняцьці ўлады у Нямеччыне Гітлерам, пабудавалі каля францускай граніцы такую-ж лінію, як Французы, і назвалі яе Лініяй Зыгфрыда. Кажуць аднак, што сёлетняя вясьняная паводка на раце Рэйн заліла Лінію Зыгфрыда. Колькі ў гэтым праўды, няведама. Але газэты падаюць, што апрача Лініі Зыгфрыда Немцы будуюць яшчэ дзьве лініі, якія цяпер закончваюць і з якіх цешацца.

Падгатоўка да вайны ўсюды зроблена, не хапае толькі іскры, якая-б запаліла прыгатаваны порах.

З. Б.

## ЦІ ТО ПЕСЬНІ?..

Ці то песьні ў пазалоце
на аўсянішчы густым?
Ці то вецер гай малоціць,
медзьдзю зьлітыя кусты?

Ці то з шумам адцьвітаньня
сэрца збуджаны парыў
запаліў зарою раньне
да вячэрняе зары?

Ці то ў сонечным прасторы
сокал хмары варушыў?
Ці то радасьць, ці то гора
накіпела на душы?

*А. Іверс.*

# BIEŁARUSKAJA CHRONIKA

**Delehacyja polskich demakrataŭ u Vilenskaha Vajavody ŭ biełaruskaj spravie.** Jak padaje „Robotnik Wileński“ 17.VII.39, delehacyja vilenskaj arhanizacyi P. P. S. i „Demakratyčnaha Klubu“ ŭ asobach dr. I. Dobžanskaha i praf. M. Kridla adviedała Vilenskaha Vajavodu, pradstaviła jamu stanovišča svaich arhanizacyjaŭ adnosna biełaruskaj prablemy j vyjaviła svajo padtrymańnie postulataŭ, padanych Vajavodzie pradstaŭnikami biełaruskaha hramadzianstva ŭ spravie adčynieńnia spynienych biełaruskich arhanizacyjaŭ i instytucyjaŭ. — Što adkazaŭ delehacyi Vajavoda, „Robotnik“ nie padaje, a cikava było-b viedać.

**Pabyŭka ks. Stankieviča j inž. Klimoviča ŭ Vilni.** Vysielenyja na 5 hadoŭ z Vilni i Vilenščyny biełaruskija dziejačy ks. Ad. Stankievič i inž. Adolf Klimovič atrymali ad uładaŭ dazvoł na časovuju pabyŭku ŭ Vilni j Vilenščynie: ks. Stankievič ad 1 da 15 lipnia, a inž. Klimovič ad 15 červienia da 5 žniŭnia siol. Ks. Ad. Stankievič pryjmaŭ miž inšym udzieł u źjeździe katalickich ksiandzoŭ, sioletnich jubilataŭ, z katorymi 25 hod tamu skončyŭ razam Vil. Duchoŭnuju Seminaryju.

**Pamiorła Dr. M. Hałubianka-Bučynskaja.** Tolki niadaŭna dajšli ŭ Vilniu čutki, što ŭ Prazie Českaj pamiorła Biełaruska dr. M. Hałubianka, jakaja tam skončyła medycynu j paśla tam-ža pracavała, jak lekarka, pryjmajučy ŭdzieł ŭ pracy biel. emihrantaŭ u Čechii. Viečny joj supakoj!

**Ekskursija biełaruskich studentaŭ.** Miž 16 i 22.VII. sioleta adbyłasia ekskursija na roverach biełaruskich studentaŭ u Biełavieskuju puščču. Usich studentaŭ było da 30. Raźjaždžajučysia, studenty padzialilisia na hrupki, jakija pajechali ŭ adviedziny ŭ inšyja miascovaści. Adna hrupa studentak i studentaŭ, likam 6, adviedała, miž inšym, u Słonimie Ks. Ad. Stankieviča.

**U Biełaruskim Muzei im. Iv. Łuckieviča.** Ličba cennych ekspo nataŭ u Muzei ŭściaž pavialičajecca. Za apošni čas, miž inšym, u Muzej prybyli dva cennyja žanockija partreciki raboty viedamaha vilenskaha malara praf. J. Rustema z pačatku XIX st. Prybyvajuć uściaž i achviary hrašmi na Muzej, ale achviaroŭvanych hrošaŭ nie chapaje, kab muzejnuju pracu pastavić na naležnaj vyšyni j pryciahnuć płatnych pracaŭnikoŭ. Nieabchodna dzieła hetaha pavialičyć prapahandu składak i achviar na Muzej.

**„Wilno“ ab Bieł. Navuk. T-vie.** Urad miesta Vilni sioleta pačaŭ vydavać bahaty kvartalny časapis p. n. „Wilno“, pryśviačany spravam hetaha miesta. U № 2 „Wilna“ znachodzim miž inšym ahlad dziejnaści Biełaruskaha Navukovaha T-va i Bieł. Muzeju im. Iv. Łuckieviča ŭ Vilni.

**Biełarusy ŭ Varšaŭskaj Duchoŭnaj Seminaryi.** Vysielenyja z Drui biełaruskija zakońniki klaštaru a.a. Marjanaŭ pasialilisia ŭ svaim klaštornym Domie na Bielanach. Biełaruskija maładyja zakońniki teolohičnyja studyi adbyvajuć u Varšaŭskaj Duch. Seminaryi. Sioleta zakońnik Anton Padziava paśviačany na subdyjakana, a Kazimier Sarul na minaryta.

**Viesnavyja ŭstupnyja akzaminy ŭ Vil. Bieł. Himnaziju.** Sioleta viasnoj paśla ŭstupnych ekzaminaŭ pryniata ŭ I-šuju klasu Vil. Biełaruskaj Himnazii 21 vučniaŭ. Kandydataŭ było 32. Tyja, što nie zdali akzaminaŭ viasnoj, mohuć ich zdavać uvosieni — 29.VIII.39.

**Z dziejnaści Bieł. Kult.-Aśvietn. T-va ŭ Litvie.** 12.VII siol. dramatyčnaja sekcyja Biełaruskaha Kulturna-Aśvietnaha Tavarystva ŭ Litvie ładziła ŭ Siarhiejčykach biełaruskaje pradstaŭleńnie. Stavili kamedyju „Piarestaja krasula“. Paśla pradstaŭleńnia byli deklamacyi j śpievy. 23.VII heta-ž arhanizacyja ładziła pradstaŭleńnie ŭ Davałhovičach.

**Niemcy ab Biełarusach.** U niamieckim časapisie „Jomsburg“ niadaŭna pajaviŭsia vialiki artykył ab biełaruskim adradženskim ruchu p. n.: „Der Weissrussische Politische Gedanke bis 1919“. Artykuł hety vydany paśla asobnaj knižycaj. Škada tolki, što aŭtar P. Scheibert, katory ahułam davoli salidna apracavaŭ pačatak bieł. adradžeńnia, nie źviarnuŭ naležnaje ŭvahi na dalejšy jaho bieh i dajšoŭ da zusim fałšyvych vyvadaŭ, śćviardžajučy siarod Biełarusaŭ tolki čužyja ŭpłyvy z boku Maskvy j Varšavy, a nie prykmieciŭ samaha hałoŭnaha—niezaležnickich biełaruskich imknieńniaŭ, vyražanych Aktam 25 sakavika 1918 h., a tak-ža paźniejšaj pracaj i deklaracyjami biełaruskich niezaležnikaŭ.



* * *

Прыс. Ніне Буко

*Пры дарозе куст беленькай рожы*
*Разрастаўся, пачаў красаваць.*
*Быў май ціхі, як люба,прыгожа—*
*Сьвет хацелася сэрцам абняць.*

*У чароўна-прыгожыя ночы*
*Салавейка сюды прылятаў,*
*Рожы белай глядзеў ён у вочы,*
*Аб каханьні, аб шчасьці пяяў.*

*Мілагучныя майскія сьпевы*
*Разбудзілі цудоўны настрой,*
*А як лісьцем пакрыліся дрэвы,—*
*Рожу сэрцам кахаў і душой*

*Мінуў май, прайшло лета, сьпякота,*
*Ліст пажоўклы валіўся ўжо здрэў*
*У сэрцы рожы гасьціла маркота:*
*Салавей ад яе адляцеў.*

—

*Так дзяўчыне прыгожай і шчырай*
*Сэрца зраніў няшчыры хлапец,*
*Салаўём адляцеў ён у вырай*
*Сэрца-ж змсціў таміцца і млець.*

*М. Базылюк*

**Z vydavieckaj nivy.** Hetymi dniami vyjšli z druku: knižka—„*Сакрэт ураджаю, або якім насеньнем засяваць і як яго на сяўбу прыгатаўляць*“. Napisaŭ inž. V. B. żbiełaruščyŭ A.K. Vydańnie „Samapomačy“. Vilnia 1939. Bač. 42. Cana 50 hr. Knižka heta cikavaja, patrebnaja j vielmi karysnaja, asabliva ŭ pazaškolnaj aśviecie i ŭ ziemlarobstvie.

Časapis „*Калосьсе*“, knižka III, za m-cy: lipień, žnivień i vierasień 1939 h. Bač. 68. Cana 50 hr. Adrys red.: Vilnia, Zavalnaja 1. Žmiest „Kałośsia“, jak zaŭsiody cikavy j bahaty. Nastupnaja, čaćviortaja knižka časapisu „Kałośsia“ pryśviačana maje być Ks. Ad. Stankievičŭ, z pryčyny 25-cihodździa jahonaha śviatarstva j nacyjanalnaje biełaruskaje kulturnaje j hramadzkaje pracy.

# Што чуваць?

— Анагдай кончыліся **англійска-польскія** 6-ці тыднёвыя перагаворы аб пазыцы. У выніку іх Англія прызнала Польшчы толькі пазыку таварамі (ваеннымі матарыяламі) да 8 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў (каля 200 мільёнаў злотых). У справе грашовае пазыкі гутаркі не далі ніякага выніку, дзеля таго, што пастаўленыя былі Англійцамі вельмі цяжкія варункі. Грашовая пазыка мела быць так-жа на суму 8 міл. фунт. шт., з гэтага 5 міл. мела даць Англія, а 3 міл. Францыя.

— Англія, як ведама, стараецца падтрымліваць сваіх саюзьнікаў і дае ім пазыкі. І так ужо прызнаны былі раней пазыкі **Грэцыі, Румыніі, Турэччыне**, а нядаўна і **Новай-Зэляндыі**, якая атрымала 9 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў. Пазыкі ў Англіі гэтак увайшлі ў моду, што ангельскі міністр гандлю Гадсон спаткаўшы ў Лёндыне на канфэрэнцыі аб лоўлі кітоў прадстаўніка нямецкага ўраду Вольтата запрапанаваў яму, што калі-б Нямеччына зракласся сваіх захопніцкіх і ваенных пляноў Англія прызнала-б ёй пазыку ў суме 1 мільярда фунтаў штэрлінгаў, адчыніла-б доступ да сырцоў і згадзілася-б на падзел сусьветных рынкаў. Прапазыка гэта была найбольшай сэнсацыяй апошніх дзён і выклікала ў Францыі, Польшчы зьдзіўленьне. Тады прэм'ер Чэмбэрлен заявіў, што з прапазыкай Гадсона англійскі ўрад нічога супольнага ня мае і зьяўляецца яна прыватнай гутаркай.

Польскі Маршал Э. Рыдз-Сьміглы ў гутарцы з амэрыканскай журналісткай заявіў, што **Польшч** будзе старацца вырашыць справу Гданска мірным спосабам. Калі-б аднак Нямеччына хацела забраць Гданск, дык Польшч будзе яго бараніць нават і тады, калі й ня будзе мець помачы ад саюзьнікаў.

— „Ekspres Porannу," а так-жа й іншыя польскія газэты, падаюць, што правадыр гітлераўскай моладзі ў Нямеччыне Бальдура фон Шірах Бракэ сказаў да студэнцкае моладзі прамову, у якой заявіў, што вырашэньне міжнароднага напружанага палажэньня адбудзецца на ўсходзе. Калі-ж пачнецца вайна, дык Немцы не затрымаюцца на Гданску й Пазнані, а пойдуць аж да Бугу. Будучая нямецкая дзяржава па вайне мае апрача Чэхаў абымаць шмат іншых народаў, што жывуць на Усходзе Эўропы. Барацьба на жыцьцё і сьмерць — казаў ён — ужо пачалася. — Нямецкія пляны, як бачым, вялікія. Немцы быццам думаюць заняць **Мадзяршчыну, Літву, Латвію, і Эстонію.** Толькі пытаньне, ці ўдасца ім гэта?

— У **Гішпаніі** няма спакою. Цяпер пачынаюць сварыцца генэралы за кірунак заграпічнае палітыкі й нутраны лад. Ген. Франко і мін. нутр. спраў Сэрано Сунэра хочуць ісьці сьлядамі восі Бэрлін-Рым. Супроць гэтага выступаюць генэралы: Кэйпо дэ Льляно, Яг, Араманда, Сальтага, Москардо і інш., каторыя хочуць, каб Гішпанія была нэўтральнай. Перамога пакульшто па старане мін. Сунэра, аднак у Гішпаніі напружаньне такое вялікае, што можа йзноў там разгарэцца хатняя вайна. Ген. Франко хоча выслаць ген. Кэйпо дэ Льляно, як дыплёматычнага прадстаўніка, заграніцу і гэтым самым пазбыцца яго ў краю.

— **Англійска-японскі канфлікт** у Тьентсіне быў ужо залагоджаны, бо Англія пайшла на ўступкі. Бачачы перамогу Японіі, **Злучаныя Штаты Паўночн. Амэрыкі,** якім разрост сілы Японіі не на руку, паведамілі яе, што яны за 6 месяцаў скасуюць амэрыканска японскі гандлёвы дагавор з 1911 г. Пасьля гэтага й Англія сталася у адносінах да Японіі больш цьвёрдай. Сарваньне амэрыканска-японскага дагавору ёсьць вялікай пагрозай Японіі, бо яе ваенны промысел у 75 працэнтах залежны ад гандлю з Амэрыкай і Англіяй. Гэта вельмі ўцешыла Кітайцаў, бо такім чынам іхняе палажэньне будзе папраўляцца, тымбольш, што, як пішуць газэты, дасталі яны ад Англіі пазыку ў суме 3 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў і ад СССР 150 мільёнаў даляраў у форме аружжа й амуніцыі.

— **Англійска-французска-савецкія** перагаворы быццам пасоўваюцца наперад. Дзеля прысьпяшэньня й заканчэньня іх гэтымі днямі выяжджае ў Маскву вайсковая англійска-француская місія, якая будзе весьці перагаворы з галоўнымі камандзерамі савецкае арміі.



Японцы на граніцы ангельскай канцэсіі ў Тьентсіне

# Цікавыя раскопкі ў Дзісеншчыне й Пастаўшчыне

Апошнімі гадамі ў многіх мясцох нашага Краю адбываюцца цікавыя раскопкі старадаўных курганоў, а так-жа на мясцох, дзе былі калісь замчышчы. І так вядуцца раскопкі ў Горадні, Давідгарадку, Вільні, у Ашмяншчыне, Сьвянцяншчыне, Дзісеншчыне, Пастаўшчыне. Пры раскопках у Віленшчыне вельмі многа працы ўкладаюць др. Ганна і Уладзімер Галубовічы з Вільні.

Аб раскопках у Горадні на Замкавай Гары ня так даўно мы пісалі. Найсьвяжэйшыя весткі аб сёлетніх раскопках прыходзяць з Дзісеншчыны й Пастаўшчыны.

У Дзісеншчыне раскапаны нядаўна каля возера Шо некалькі курганоў. Знойдзены ў іх магілы славянскіх ваякаў з X і XI стагодзьдзяў. Пры мужчынах былі паложаны ваенныя сякеры, жалезныя стрэлы, крэсівы, запінкі, бранзовыя бранзалеты, якія, відаць, былі адзнакамі старшынства. Пры тым у руцэ аднаго ваякі разам з красівом ляжала арабская манэта. Пры кабетах знойдзены рознакалёрныя пацеркі, якія выраблялі арабскія рамесьнікі ў Сырыі.

У Пастаўшчыне каля Ваўкалаты ў в. Віржы раскапаны два курганы. Гэтыя курганы ўложаны былі вяночкам з каменьня й зьяўляюцца яны вялікай загадкай для вучоных. Агулам гэткіх курганоў летась і сёлета раскапана чатыры. Дапускаюць, што зьяўляюцца яны сьлядамі вандроўкі людзей, якая адбывалася 1300 год таму назад і праходзіла праз Пастаўскі павет; было гэта прыблізна ў VI—VII стагодзьдзі нашае эры.

Значэньне раскопак для навукі вялікае. Раскопкі ў нашым Краі сьведчаць перадусім аб тым, што жылі тут здавён даўна славяне, беларускія плямёны: Крывічы, Радзімічы, Дрыгавічы. Знайдзеныя арабскія манэты, пацяркі сьведчаць аб тым, што нашыя прародзічы вялі шырокі гандаль, што праз край наш праходзілі гандлёвыя шляхі з поўначы на поўдзень, з захаду на усход і наадварот. Раскопкі сьведчаць, што Беларусы здаўна мелі сваю высокую культуру, а гэта ёсьць задаткам, што праз адраджэньне здабудуць лепшую будучыню, і сваей працай, сваімі здольнасьцямі будуць здабываць славу між народаў, як гэта было калісь.

Я—к.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



**Navajelnia pryznana klimatyčnaj miascovaściaj.** Lekary, a tak-ža j ministerstva hramadzkaje apieki, 6.VII.39 pryznali Navajelniu ŭ Navahradzkim paviecie klimatyčnaj miascovaściaj (kurortnaj), h. zn. što klimat, pavietra j inšyja klimatyčnyja varunki hetaje miascovaści vielmi dobra spryjajuć lačeńniu chvorych ludziej.

**Lačeńnie muzykaj.** Adzin amerykanski lekar śćvierdziŭ, što muzyka vielmi dobra dzieić na nervova chvorych ludziej i dziela taho ŭ Amerycy ňžo prabujuć lačyć nervovych ludziej łahodnaj muzykaj.

**Katastrofa, pavodka i śnieh.** 16.VII kala Varšavy jznoŭ zdaryłasia katastrofa ciahnikoŭ, u času jakoje žhinuła 8 asob i 250 asob ranienych.—U Krakaŭskim vajavodztvie z pryčyny vialikich daždžoŭ reki Visła, Varta j Odra vystupili z bierahoŭ i zalili šmat miascovaściaŭ i vialikija abšary iz zbožam. Straty vialikija. — U Anhlii ŭ m-cy lipni niespadziavana vypaŭ sioleta dva razy vialiki śnieh.

**Post—jak lek.** Ludzi ŭžo pierakanalisia, što post dobra ŭpłyvaje na zdaroŭje čałavieka. Ciapier-ža niekatoryja lekary post pryznajuć lekam. I tak, post pieradusim pamahaje pry adtłuščańni, post pamahaje tak-ža ŭ lačeńni sklerozy, nervovaści, nyrak i inšych chvarobaŭ.

**Chto kiruje śvietam?** Amerykanski prafesar dr. M. Mirrej dakazvaje, što mižnarodnaj palitykaj i ŭsimi haspadarstvami kiruje 1200—1500 ludziej. Jany taksama majuć rašajučy upłyŭ na spravy vajny j miru.

**Prociŭ ukušeńnia pčały, kamara.** Letam časta zdarajecca ukušeńnie pčały, asvy abo kamara. Voś-ža, kab ukušanaje miesca nie baleła, a hałoŭna, kab nia spuchła, treba—pakul dziračka ad ukušeńnia nie zatuliłasia, — nacierci jaje amańjakam. Kali amańjaku niama, dyk radziać nacierci ŭkušanaje miesca hrudkaj-kavałačkam cukru, što tak-ža vielmi pamahaje.

**Niemcy viaduć rašučuju baraćbu z pjanstvam i kureńniem tytunu.** U Niamieččynie paŭstała niadaŭna specyjalnaja haspadarstviennaja ŭstanova, jakaja maje na mecie viaści rašučuju baraćbu z pjanstvam i kureńniem tytunu. Addziely hetaje ŭstanovy raskinuty ŭžo pa ŭsim haspadarstvie. Miž inšym, zabaroniena ŭžo ŭ Niamieččynie reklama-prapahanda tytunu j roznych alkaholnych napitkaŭ. Zatoje-ž šyraka prapahujecca ŭžyvańnie napitkaŭ biezalkaholnych, niaškodnych ludziam. Asabliva vostra viadziecca baraćba z kureńniem tytunu siarod žančyn i moładzi. U Niamieččynie vydumali lekary specyjalnyja upryski—lek u žyły kurcom, jakim paśla kureńnie stajecca tak niapryjemnym, što musiać jaho kidać. —Baraćba z pjanstvam i kureńniem tytunu -- heta vialikaja j kulturnaja dziejnaść, jaje musim pravodzić i my Biełarusy, asabliva ž biełaruskaja moładź, bo pjanstva j kureńnie tytunu — heta zhuba, jakaja rujnuje nas matarjalna j maralna.

## З КРАЮ

### Праваслаўныя Палякі

**Горадня.** Старадаўнае й ціхое нашае места ад нейкага часу сталася цэнтрам „православных Полякув". Тут яны залажылі свой Інстытут, выдаюць свае часапісы, вядуць агітацыю і г. д. Скуль гэта ўсё ўзялося, дык мы, тутэйшыя праваслаўныя жыхары, самі ня можам разгадаць, бо раней аб праваслаўных Палякох у нас ніхто нічога нават і ня чуў. Рух гэты выглядае штучны й нікому з яго ніякае карысьці напэўна ня будзе. Бо хоць агітатары праваслаўных Палякоў запрашаюць і ўсіх Беларусаў запісвацца Палякамі, аднак ніхто паважны й шануючы сябе гэтак рабіць, крывіць душой, ня хоча й ня будзе; зьмяняюць сваю нацыянальнасьць толькі адзінкі зусім бязвартасныя, бязпрынцыповыя. Кожны разумны й культурны чалавек ведае, што зьмена нацыянальнасьці, упісваньне сябе ў чужую сям'ю—ёсьць ганьбай.

Р. П—ч.

### Гарэлка, трупы й вастрог...

**Падзюткі, Пастаўскі пав.** 23.VII сёл. у в. Шыркі каля Пастаў было вясельле. Спачатку ўсё адбывалася добра, пасьля аднак хлопцы напіліся й пачалі біцца. У выніку двух хлапцоў было забіта, а забойцаў арыштавала паліцыя й пасадзіла ў вастрог. Вось, да чаго даводзіць гарэлка. Вось праклацьце нашых дзён. Дык, усе, каму дарагая будучыня нашага народу, стараймася ўсімі сіламі праводзіць акцыю супроць п'янства.

М. С-фін.

### 8 hadoŭ vastrohu

**Jałaŭka, Vaŭkavyski pav.** 19.VI. siol. u Vaŭkavysku sud zasudziŭ sakratara Sajuzu Transpartoŭcaŭ z v. Baŭtryki na 8 hod vastrohu. Prakuror abvinavačvaŭ jaho ŭ kamunistyčnaj dziejnaści. Sam-ža abvinavačany, a tak-ža kiraŭnik centrali „Związku Transportowców" z Varšavy ćvierdzili, što z kamunistyčnaj pracaj jon nia mieŭ ničoha supolnaha, a pracavaŭ dla dabra miascovych sialan płytnikaŭ i inš. rabotnikaŭ.

V. M.

### Patreba rodnaj škoły

**Suchieničy, Dubienskaj voł., Horadzienskaha pav.** Apošnija mižnarodnyja padziei prymusili našych sialan źviarnuć pilniejšuju ŭvahu na palityku j budučyniu. Cikaviacca hetym adnak pierad usim ludzi starejšyja, moładź-ža naša, nie biaz soramu mušu pryznacca, cikavicca bolš haraj i tandetnaj kramninoj. Tymčasam moładź pavinna pierad usim cikavicca budučyniaj. Vialikaj niastačaj našaj moładzi źjaŭlajecca niedachop aśviety j toje, što ŭ škołach, jakija jošć, vučać niezrazumieła, papolsku. Z usiaho hetaha vynikaje vialikaja patreba biełaruskaje škoły, a tak-ža patreba, kab ludzi śviedamyja, hramadzkija staralisia zacikavić moładź spravami hramadzkimi.

Mars.

### Strašnaja bura z hradam

Nadoviačy nad ščučynskim pavietam, a paśla nad pavietam Brasłaŭskim praniasłasia strašnaja bura z hradam, jakaja raźviarnuła sotni budynkaŭ, pavyryvała drevy j źnistožyła zboža. Z ludziej jošć dvoje zabitych i šmat pakalečanych. Hrad byŭ u niekatorych miascoch taki vialiki. jak kurynyja jajki. Straty vializarnyja.

### *Паштовая скрынка*

**Н. Жальбе:** Верш Хмары ня пройдзе праз цэнзуру, іншыя матарыялы надрукуем. Невялічкі зборнік з найлепшых сваіх вершаў просім улажыць і прыслаць, а мы будзем старацца яго як-небудзь выдаць. Прывітаньне!

**М. В.:** Кніжкі стараемся вымяняць. Падробны адказ хутка будзе ў пісьме.

**Г. Новік:** Зборнік атрымалі. У меру магчымасьці будзем выкарыстываць. Пісьмо просім прысылаць. Прывітаньне!

**Т. Ігнацюку:** Арганізацыі бел. пчаляроў няма, яна ўжо зьліквідавана. Дзеля таго ня можам больш нічога адказаць на Вашыя пытаньні.

**П. З.:** Артыкул друкуем, дзякуем і чакаем на новы. Прывітаньне!

**V. M.** Karespandencyju skaraciŭšy drukujem. Vieršy słabyja j da druku nie padchodziać. Radzim pisać karespandencyi.

**М. Засіму:** Верш атрымалі, будзем старацца надрукаваць. Прывітаньне!

**М. Базылюку:** Вершы атрымалі. Дзякуем. Будзем выкарыстываць.

**М. П.:** Вершы, нажаль, сваей формай слабыя й да друку не падходзяць, хоць зьмест іх вельмі добры. За пабой, калі маеце доказы й сьведкаў, можаце падаваць і паліцыю ў суд. За стойкасьць чэсьць Вам і слава!

**P. Ł., St. Ž., R. Ž.:** Prośbu spaŭniajem. Pryvitańnie!

**М. С-фіну:** Карэспандэнцыю друкуем і просім пісаць часьцей.

**Р. П-ч:** Карэспандэнцыю друкуем, аднак з прычын цэнзуральных змушаны былі яе скараціць.

**Jak. Š.:** Apaviadańnia da druku nie padchodzić. Vučycca radzim samatuham, kupiŭšy adpaviednyja padručniki. Krychu knižak Vam vyšlem. „Letapis" sioleta jašče nia vyjšaŭ. „Šlach Moł." vysyłajem akuratna.

**М. Каколе:** Адзін верш надрукуем. За добрыя словы шчыра дзякуем.

**А. Э. Шэньку:** Верш слабы. Просім пісаць карэспандэнцыі. З кніжак радзім перад усім выпісаць бел. граматыку, правапіс, хрыстаматыю бел. літаратуры, гісторыю й географію Беларусі, а пасьля і інш. бел. кніжкі.

**Jul. Har.:** Tvory Vašy słabyja j da druku nie padchodziać. Radzim pierad usim paznać bieł. hramatu i jak najbolš čytać bieł. knižki. Zdolnaści da piara ŭ Vas jošć.

**L. Miedź.:** Dalej „Šl. Moł." budzie vychodzić akuratna, kožnaha 5-ha i 25-ha.

*„Шлях Моладзі" друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная вул. 1—2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.

Wydawca: „Bielpres". Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1 Redaktor: J. Najdziuk.
Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.